**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 42 (810) 15 кастрычніка 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





**Ёсць месцы побач з Глыбокім, якія варта наведаць. Напрыклад, вёску Наносы на беразе Нарачы. Дадатныя эмоцыі – Вам забяспечаныя на доўгі час.**

Каронны нумар усіх рыцарскіх фэстаў – нечаканая атака ваяроў на прысутных гледачоў (экскурсантаў). Больш падрабязна – на стар.4. *Фота Ул. Скрабатуна.*



## Банк развіцця падорыць Віцебскай вобласці 10 новых школьных аўтобусаў

Банк развіцця падорыць Віцебскай вобласці 10 новых школьных аўтобусаў "МАЗ", паведаміў карэспандэнту БелТА намеснік начальніка ўпраўлення адукацыі Віцебскага аблвыканкама Сяргей Арэхаў.

Пасля дакументальнага афармлення транспарт адразу з Мінска адправіцца ў раёны, вызначаныя кіраўнен адукацыі: Бешанковіцкі, **Глыбоцкі**,Докшыцкі,Дубровенскі, Лепельскі, Аршанскі, Сенненскі, Талачынскі, Ушацкі і Чашніцкі.

Новыя машыны ўмяшчальнасцю 22 пасадкавых месцаў адмысловa абсталяваны: маюць дадатковыя сістэмы бяспекі для дзяцей і кіроўцы, праблісковыя маячкі, вонкавую гучную сувязь, высоўную прыступку і іншыя канструктыўныя і тэхнічныя асаблівасці.

*Паводле БелТА.*



ISSN 2077-8023



**Талачынскі раён**

# Падарункі вяскоўцам і гараджанам

■ Станіслаў Раманчук.

**У цяперашнім няпростым жыцці не так і шмат выпадае беларусам падстаў для сапраўднай радасці.**

Вось і 10-тысячны райцэнтр Талачын на ўсходзе вобласці амаль тры дзесяцігоддзі не бачыў такога маштабнага абнаўлення, якое правялі тут да абласных "Дажынак". Толькі для райбальніцы з розных крыніц выдаткавалі амаль 10 млрд. рублёў. За такія сродкі ў ёй адкрылі вельмі патрэбнае аддзяленне гемадыялізу для абслугоўвання жыхароў свайго і Сенненскага раёнаў. Замест старога аварыйнага РДК пабудовы 50-х гадоў з'явіўся сучасны Цэнтр культуры, на адну новую апаратуру і абсталяванне пайшло звыш 15 млрд. У райцэнтры яго жыхароў парадавала, што змянілася цэнтральная плошча, адкуль прыбралі помнік Леніну, а паўсталі бульвар ліхтароў з прыгожай алеяй для маладажонаў. Для самых юных гараджан пабудавалі сучасны дзіцячы гарадок на еўрапейскі манер. З даваеннай пабудовы пераехала ў двухпавярховы светлы будынак цэнтральная раённая бібліятэка з фондам звыш 30 тысяч кніг, якой падаравалі камп'ютары. У адным з жылых мікрараёнаў адкрылі сучасную шматфункцыянальную спартыўную пляцоўку са штучным газонам, а мясцоваму спорт-клубу "Ніва" Міністэрства спорту Беларусі перадала спортінвентару на 160 млн. рублёў. Кардынальна змяніўся і гарадскі сквер, дзе паўстала Алея знакамітых землякоў і заслужаных людзей з новым фантанам "Каханачка". Дарэчы, з гэтай мясцовасці паходзяць знакаміты мастак Міхась Савіцкі, літаратары Вера Вярба і Міхась Зарэцкі, адразу 22 Героі Савецкага Саюза і Сацпрацы, па герою Беларусі і Расіі. На прайшоўшых "Дажынках" ушанавалі таксама 45 лепшых хлебаробаў вобласці, а перадавыя гаспадаркі атрымалі сертыфікаты на набыццё новай тэхнікі.

**Пастаўскі раён**

# Калі старасць у радасць

■ Чэслаў Якубовіч.

**Ва ўсім свеце існуюць праблемы, як зрабіць жыццё людзей пажылога ўзросту паўнацэнным і змястоўным.**

Свае падыходы ў гэтым накірунку выпрацавалі ў Пастаўскім раёне, які стаў лідарам у вобласці па падтрымцы адзінокіх састарэлых грамадзян і мае ўжо два прытулкі для іх утрымання ў райцэнтры і ў гарпасёлку Лынтупы. Сёлета восенню мясцовы тэрытарыяльны цэнтр сацабслугоўвання насельніцтва адкрыў у горадзе сваё 9 структурнае падраздзяленне, шматфукцыянальны цэнтр адпачынку і рэабілітацыі інвалідаў і людзей старэйшага пакалення. На выездзе з Пастаў некалькі гадоў пуставаў прасторны будынак былой ваеннай часці сувязістаў, які перадалі сацработнікам і меней чым праз год пасля капрамонту ён змяніўся кардынальна. На аб'ект пайшло каля 3 млрд. рублёў, але бюджэтныя ўкладанні склалі толькі дзясятую частку расходаў. Для гэтай акадэміі трэцяга ўзросту цэнтр сам накіраваў звыш паўмільярда заробленых грошай ад аказання розных паслуг, астатнія сродкі выдзелілі шматлікія спонсары. У выніку атрымаўся паблізу Палаца Тызенгаўза выдатны дом для актыўных пенсіянераў і для тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні сваёй фізічнай формы. У новым аддзяленні дзённага знаходжання стварылі блок водных працэдур з гідрамасажнай ваннай. Кансультаваць пажылых будзе ўрач-герантолаг, ёсць тут і кабінет лячэбнага масажу з сучаснай араматэрапіяй,трэнажорная зала. Усе жадаючыя могуць авалодаць сакрэтамі працы з сучаснай электронікай у камп'ютарным класе, займацца у гуртках па інтарэсах. Для народнага хору ветэранаў з'явілася ўтульная зала для рэпетыцый і канцэртаў. У наступным годзе з'явіцца тут і камфортная лазня з саунай.

**Полацкі раён**

# Сям'ю выратаваў ... кот

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ да наступлення рэзкага пахаладання ў Прыдзвінні не было такога, каб за суткі не было ніводнага пажару.**

Нават калі фіксуецца ў вобласці толькі адно вогненнае здарэнне, то абавязкова гараць і атрымоўваюць пашкоджанні памяшканні, а ў шэрагу выпадкаў гінуць людзі. Да такой бяды мог прывесці днямі начны пажар у адным з дамоў індывідуальнай пабудовы ў Полацку, але гэту маладую сям'ю, на шчасце, выратаваў іх дамашні любімец. Менавіта кот першым пасярод ночы адчуў моцнае задымленне ў верандзе і не разгубіўся. Жывёліна прыбегла ў спальню, пачала драпаць па твару гаспадыню і разбудзіла жанчыну. Яе муж прачнуўся, аператыўна пасярод дыму з'арыентаваўся ў доме і пераканаўся, што выхад праз дзверы ўжо немагчымы з-за агню, які ахапіў частку дому. Сям'я эвакуіравалася самастойна ўтраіх, з жонкай і іх сынам праз адкрытае акно і не пацярпела. Ужо на вуліцы пацярпелыя выклікалі на дапамогу пажарных. Выратавальнікі МНС прыбылі хутка, ліквідавалі ўзгаранне. Аднак полымя зрабіла сваю чорную справу, а агонь знішчыў дах дома, моцна пашкодзіў столь, сцены і маёмасць гэтай сям'і. Прычыны, ад чаго ўзнік гэты пажар, будуць устаноўлены крыху пазней, а вось ад своечасовага выяўлення ўзгарання і правільных потым дзеянняў заўсёды залежыць многае і галоўнае, каб не было чалавечых ахвяр. У тую самую ноч спрацавала сістэма аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі ў бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі абласнога цэнтра. Там яе работнікі своечасова правялі эвакуацыю 70 чалавек, ніхто з людзей не пацярпеў, а з пажарам хутка разабраліся спецыялісты.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 15.10.15 | | | | Пятніца 16.10.15 | | | | Субота 17.10.15 | | | | Нядзеля 18.10.15 | | | | Пан. 19.10. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +2 | +7 | +1 | +2 | 0 | +9 | +1 | +3 | +1 | +11 | +3 | +6 | +4 | +9 | +4 | +7 | +6 | +9 |
| Ціск | 760 | 761 | 761 | 760 | 760 | 759 | 758 | 757 | 757 | 755 | 754 | 752 | 750 | 749 | 748 | 748 | 749 | 750 | 751 |
| Вецер м/сек | 2 Ю-З | 1 Ю-В | 3 Ю-В | 4 Ю | 3 Ю-В | 5 Ю-В | 5 Ю-В | 5 Ю | 3 Ю-В | 5 Ю-В | 5 Ю | 6 Ю | 3 Ю | 4 Ю-В | 4 Ю | 3 Ю | 3 З | 3 З | 3 С-З |
| Вільготнасць | 83 | 91 | 63 | 84 | 85 | 98 | 54 | 81 | 80 | 85 | 47 | 69 | 68 | 84 | 74 | 100 | 99 | 100 | 95 |

# Аб самым надзённым

## ПРЫ ЎМОВЕ ПРАВЯДЗЕННЯ СТРУКТУРНЫХ РЭФОРМ МВФ МОЖА ПРАДАСТАВІЦЬ БЕЛАРУСІ ЧАРГОВЫ ПАТРЭБНЫ КРЭДЫТ

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Сёлета чарговыя замежныя крэдыты Беларусі проста жыццёва неабходныя. Інакш не збалансаваць наш знешнегандлёвы баланс. Напэўна, упершыню ў год выбараў упалі на 5% рэальныя даходы працуючых, і пенсіі цэлы год не павышаліся, хоць цэны шпарка раслі.**

Незадоўга перад прэзідэнцкімі выбарамі лёс прадаставіў нязменнаму кіраўніку Беларусі яшчэ адну магчымасць прадэманстраваць свае здольнасці публічнага аратара не абы дзе, а нават за акіянам. Пашчасціла і ягонаму любімаму малодшаму сыну Колю, якога ўключылі ў склад афіцыйнай беларускай дэлегацыі, а потым фота і відэакамеры зафіксавалі школьніка ў зале пасяджэнняў на сесіі Генасамблеі ААН. Падчас наведвання Нью-Йорка графік працы ў главы дзяржавы быў даволі напружаным, ён нават два разы выступіў там: на Самміце па ўстойліваму развіццю, а потым і ў агульнай дыскусіі 70-й сесіі гэтай уплывовай міжнароднай арганізацыі.

Тых, хто спадзяваўся на далейшае паляпшэнне адносін Беларусі з Захадам, чакала сапраўднае расчараванне. Прэзідэнт выступіў даволі агрэсіўна і, шчыра кажучы, у многім падыгрываў той пазіцыі, якой прытрымліваецца па гэтаму пытанню ягоны расійскі калега У. Пуцін. Верагодна, перад гэтым беларускае кіраўніцтва вымушана было пагадзіцца на размяшчэнне ў нас расійскай ваеннай авіябазы. Аднак прамовы, хоць і самыя яркія, не дапамагаюць вырашэнню надзённых праблем, якіх зараз вельмі багата ў накрытай крызісам айчыннай эканоміцы. Таму падчас гэтага амерыканскага турнэ ў А. Лукашэнкі адбылася самая важная сустрэча з дырэктарам-распарадчыкам МВФ Крысцінай Лагард.

Нагадаем, у свой час менавіта яго (МВФ) даволі выгадныя крэдыты па праграме стэнд-бай, нават у параўнанні з умовамі расійскіх пазык, дапамаглі нашай краіне пераадолець у 2009-2010 гадах наступствы таго сусветнага эканамічнага спада і крызіса. Зараз беларускі ўрад зноў просіць МВФ выдзеліць нам да 3,5 млрд. долараў. Перамовы аб гэтым пачаліся яшчэ вясной, наш бок акрэсліў план рэформ, адным з яго пунктаў з'яўляецца павышэнне ставак камунальных паслуг, якіх, дарэчы, дабіваюцца і нашы крэдыторы з Усходу, дзе дамінуюць рускія ў адпаведных фондах і банках Еўразійскага саюза.

Сёлета чарговыя замежныя крэдыты Беларусі проста жыццёва неабходныя. Інакш не збалансаваць наш знешнегандлёвы баланс. Напэўна, упершыню ў год выбараў упалі на 5% рэальныя даходы працуючых, і пенсіі цэлы год не павышаліся, хоць цэны шпарка раслі. Каторы год запар беларусаў атакуе галапіруючая інфляцыя, нацвалюта ўвесь час слабее, а апошнім часам пачало расці і беспрацоўе, скарачаюць лішніх работнікаў не толькі гіганты індустрыі. На мяжы спынення вытворчасці і наступнай ліквідацыі з-за адсутнасці збыту прадукцыі балансуюць вялізныя заводы МАЗ, "Гомсельмаш", "Гомельшкло", Светлагорскі ЦКК і іншыя, бо вытворчых цяжкасцяў не маюць лічаныя калектывы.

У такой вось сітуацыі беларускі лідар у амерыканскім мегаполісе выказаў надзею, што МВФ улічыць інтарэсы Беларусі. Сітуацыя складваецца такая, што з-за падзення сусветных цэн на нафту, і наш дзяржбюджэт сёлета недаатрымае каля 4 млрд. долараў даходаў. Расійскі рынак збыту айчынных тавараў моцна "прасеў" і, нават, у наступным годзе спад ВУП РФ будзе каля 1%, а гэта важнейшыя знешнія фактары, якія вызначаюць, што беларусам жыць і надалей будзе нясоладка. Нам зноў без знешняй дапамогі будзе цяжка выкруціцца, а на Крэмль – надзея слабая, бо ў рускіх уласных праблем і цяжкасцяў хоць адбаўляй.

Выбары завяршыліся, а цяпер неабходна будзе нешта рабіць з беларускай груваст-кай дзяржаўнай постсавецкай эканомікай. У сярэдзіне кастрычніка было абяцане прадставіць план структурных пераўтварэнняў на 2016-2020 гады, над якім працавалі спецыялісты Саўміна і Нацыянальнага банка. Адзіная загвоздка, што заходнія крэдыторы з таго ж МВФ цяпер патрабуюць, каб наспеўшыя рэформы праводзіліся аператыўна, у бліжэйшыя паўгода – 18 месяцаў. Беларускае кіраўніцтва наадварот жадае, як і раней, дзейнічаць паступова, збалансавана, каб не пацярпелі інтарэсы простых грамадзян. Аднак, К. Лагард з гэтым не пагадзілася і фактычна параіла беларусам не баяцца праводзіць жорсткія меры ў эканоміцы, каб краіна развівалася і выйшла з цяперашняга крызіса.

І цяпер, хочаш – не хочаш, а ісці на непапулярныя меры прыйдзецца, інакш з глыбокай рэцэсіі не выбрацца. Ужо відавочна, што існаваўшую дагэтуль мадэль сацыяльна-эканамічнага развіцця прыйшоў час рэфарміраваць, пераходзіць на сапраўды рынкавыя механізмы гаспадарання. У адваротным парадку крызіс будзе толькі ўзмацняцца і падаць узровень жыцця. На такім фоне ўжо не будзе радаваць тое, што ў нас на вуліцах чыста і прыгожа, палі ўсе засеяныя, а сціплыя пенсіі, у адрозненне ад затрымак выплат заробкаў, прыносяць паштальёны своечасова.

## Дзень за днём

**Перад выбарамі многія заводы дырэктыўна вярнулі на 5-дзённы графік працы. Сярэдняя заробкі беларусаў у рублях упершыню сёлета знізіліся, а ў доларах з пачатку года – амаль на 200 USD і вярнуліся на ўзровень 2008 года. За год буйныя беларускія прадпрыемствы звольнілі звыш 17 тысяч рабочых і служачых. У 2,2 разы вырасла колькасць работнікаў, адпраўленых у вымушаныя адпачынкі. Беларускім бюджэтнікам урэзалі зарплаты. Паток расійскіх турыстаў нават у Беларусі зменшыўся на 10 %.**

# Важнейшыя навіны свету

**Сірыя**. Ісламістыбаевікі прыгразілі Расіі адкрыць "другі Афганістан" за ваенную дапамогу рэжыму Б. Асада і мінамётным абстрэлам абстралялі яе дыпмісію ў Дамаску.

**Англія.** Для ісламскага тэрарызма пасля расійскай інтэрвенцыі ў Сірыі, як заявіла газета "Financial Times", Расія стала намнога больш прывабнай мішэнню, чым Амерыка.

**Францыя.** Французская ваенная авіяцыя пачала атакі пазіцый "Ісламскай дзяржавы" у Сірыі, там грамадзянская вайна забрала жыцці ўжо 200 тысяч, 4 мільёна чалавек сталі уцекачамі.

**Германія.** Урад пацвердзіў, што ФРГ не адменіць санкцыі супраць Расіі па праблемах Украіны з-за важнай ролі Крамля ва ўрэгуляванні вострага крызіса ў Сірыі.

**Расія.** Прэс-сакратар Крамля Д. Пяскоў прыгразіў, што Расія прыме контрмеры ў адказ, калі ЗША размесціць на тэрыторыі Германіі 20 сваіх навейшых атамных бомб.

**ЗША.** Расійска-амерыканскі гісторык Ю. Фельштынскі заявіў, што Пуцін падпісаў указ фактычна аб анексіі Беларусі сваім дакументам аб стварэнні там ваеннай авіябазы.

**Украіна.** Урад забараніў палёты ў краіну ўсіх расійскіх авіякампаній, за выключэннем "Ютэйра", а таксама транзітныя пералёты самалётаў РФ з ваеннымі грузамі.

**Польшча.** Моцнае абурэнне і вельмі гучны скандал выклікаў рускі пасол С. Андрэеў, які часткова абвінавاціў палякаў у пачатку II Сусветнай вайны.

**Іспанія.** На мясцовых выбарах у Каталоніі перамаглі прыхільнікі аддзялення аўтаномнай вобласці ад Іспаніі, урад краіны паведаміў, што заблакуе такі крок у судовым парадку.

**Германія.** Аўтаканцэрн Volkswagen адправіў у адстаўку свайго главу пасля выяўлення махінацый з паказчыкамі шкодных выкідаў на амерыканскім і еўрапейскім рынках аўто.

**ЗША.** Дырэктар-распарадчык МВФ К. Лягард на сустрэчы з главой Беларусі А. Лукашэнкам папракнула яму "пераарыентаваць палітыку" краіны ў эканоміцы.

**Канада.** Буйны нафтагазавы канцэрн Shell прыпыніў буравыя работу па пошуку арктычнай марской нафты ля берагоў Аляскі, на іх было патрачана 7 мільярдаў долараў.

**Саудаўская Аравія.** Да 2 тысяч чалавек вырасла колькасць ахвяр сярод паломнікаў з-за моцнай цісканіны каля Мекі падчас традыцыйнага ісламіцкага хаджу.

**Швейцарыя.** У офісе главы ФІФА Й. Блаттэра следчыя правялі вобыскі, супраць яго пачалі крымінальную справу за злоўжыванне службовым становішчам і крадзяжы.

**ЗША.** Вучоныя штата Каліфорнія распрацавалі першую ў свеце лазерную брытву, для яе непатрэбныя пена для галення і адназаразвыя станкі, батарэі хапае на месяц працы.

# Спецыялісты будуць вяртаць дапаможнік за працу ў чарнобыльскіх раёнах, калі звольняцца раней тэрміну



■ FINANCE.TUT.BY

**Урад пашырыў спіс работнікаў у рэгіёнах радыеактыўнага забруджвання, якім будуць выплачваць надбаўкі пры заключэнні кантрактаў. Пра гэта гаворыцца ў пастанове Саўміна ад 2 кастрычніка 2015 г. № 818, апублікаваным на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.**

Цяпер да катэгорый работнікаў, для якіх прадугледжаны стымулюючыя меры ў сувязі з заключэннем кантракту, дададзеныя таксама спецыялісты, якія ажыццяўляюць ветэрынарную дзейнасць.

Нагадаем, надбаўкі пры заключэнні кантракта ў «брудных» раёнах зараз прадугледжаны для педагагічных, медыцынскіх, фармацэўтычных работнікаў, работнікаў культуры (уключаючы кіраўнікоў гэтых работнікаў), спецыялістаў і кіраўнікоў спецыялізаваных вучэбна-спартыўных устаноў, спецыялістаў сельскай і жыллёва-камунальнай гаспадаркі, работнікаў і спецыялістаў сістэмы спажывецкай кааперацыі.

Цяпер ветэрынарныя работнікі таксама будуць атрымліваць надбаўкі да тарыфных ставак (акладаў) зыходзячы з умоў, аб'ёму і якасці выконваемых імі работ. «На гэтыя мэты прадугледжваюцца дадатковыя асігнаванні з разліку 30% ад фонду заработнай платы, вылічанага па тарыфных стаўках (акладаў) названых катэгорый работнікаў, і размяркоўваюцца па тэрыторыях у залежнасці ад узроўню іх радые–актыўнага забруджвання», - пракаментавалі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны.

Дзеянне гэтай нормы распаўсюджваецца на бюджэтныя арганізацыі і прыраўнаваныя да іх.

Тыя ж самыя катэгорыі работнікаў з небюджэтных арганізацый маюць права на дадатковыя стымулюючыя выплаты, зыходзячы з умоў іх калектыўных дамоваў.

Акрамя таго, дакумент замацоўвае, што пры датэрміновым скасаванні кантракту па віне работніка акрамя сумы аднаразавай выплаты (200 базавых да першага кантракта на 5 гадоў, 300 базавых - да другога) трэба будзе вяртаць таксама суму аднаразавай дапамогі, якую наймальнік выдае работніку, які прыязджае ў забруджаныя рэгіёны. Гэты дапаможнік вызначаецца з ужываннем каэфіцыентаў да мінімальнай заработнай платы на дзень выплаты. Важна, што працаўнік абавязаны вярнуць не ўвесь дапаможнік і выплату, а толькі прапарцыйную неадпрацаванаму часу суму.

Пастанова Савета міністраў уступае ў сілу з 7 кастрычніка 2015 года.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Як заявіў эканаміст Я. Раманчук, адсутнасць далейшых рэформ пагражае прэзідэнту Лукашэнка стаць губернатарам РФ з усімі далейшымі наступствамі для яго.

**Бабруйск.** З-за эканамічных цяжкасцяў на ААТ "Белшына" адбыліся адны з самых масавых у краіне скарачэнняў (на 9,5 %) штату персаналу, звольнена больш тысячы чалавек.

**Салігорск.** У І-м паўгоддзі ААТ "Беларуськалій" атрымаў 6,7 трыльёна рублёў прыбытку, што склала 85 % прыбытку ўсёй Мінскай вобласці, дзе ў многіх вытворцаў шмат праблем.

**Мінск.** На нарадзе, праведзенай на МТЗ, А. Лукашэнка прыгразіў тым, хто не разлічыцца па запазычанасці за пастаўленыя тавары, знайсці ім месцы ў следчых ізалятарах.

**Дразды.** Буйнейшы прыватны і самы прыбытковы летась холдынг "Трайпл" Ю. Чыжа за год увайшоў у 10-ку самых праблемных і стратных (84,4 мільярда рублёў ) кампаній Беларусі.

**Маладзечна.** Беларуская чыгунка пачала электрыфікацыю ўчастка на Гудагай да граніцы з Літвой даўжынёй 84 км, неўзабаве з Мінска ў Вільню можна будзе даехаць за 2 гадзіны.

**Мінск**. Вядомы эканаміст Л. Злотнікаў папярэдзіў, што ўрад даў заводам на выплату заробкаў 860 мільёнаў долараў праз аблігацыі, што выкліча пасля выбараў рост цэн яшчэ на 20 %.

**Дзяржынск.** На трасе М1 паблізу райцэнтра на ваенных вучэннях беларускія лётчыкі ўпершыню пасадзілі на магістраль і ваенна-транспартны самалёт "Ан-26".

**Мінск**. За год страты МАЗа выраслі амаль у 10 разоў і перавысілі 59 млн. долараў, аўтагігант пачаў шукаць стратэгічных партнёраў, каб выйсці з моцнага крызіса.

**Гомель.** Услед за Магілёвам у абласным цэнтры пачаў вяшчанне новы рэгіянальны тэлеканал "Беларусь 4" на базе сеткі вяшчання для ўсіх абласцей краіны.

**Баранавічы.** Са шматлікімі траўмамі патрапіў у рэанімацыю 33-гадовы будаўнік, які адчапіў трос для страхоўкі, паслізнуўся і ўпаў з даху ўзводзімага 5-павярховага дома.

**Рэчыца.** На падпітку 37-гадовы вадзіцель на "Пежо" у вёсцы Заходы пры сустрэчным раз'ездзе збіў машынай насмерць сваю жонку, якая ехала на веласіпедзе.

**Гродна.** Віленскі суд арыштаваў на месяц мясцовага кантрабандыста, які ноччу з грузам цыгарэт перасёк літоўскую граніцу, гадзіну сядзеў у халодным прудзе і быў затрыманы.

**Брэст.** Па ўсёй Еўропе і ў краінах СНД паказалі 45-хвілінны фільм "Белавежская пушча", зняты папулярным тэлеканалам Animal Planet Discovery і агучаны на 6 мовах.

**Рэчыца.** Жыхары райцэнтра зноў парадаваліся за свайго земляка, заслужанага майстра спорту Васіля Кірыенку, які стаў чэмпіёнам свету па велагонках з раздзельным стартам.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Глава вобласці М. Шарстнёў даручыў забяспечыць жыхароў з глыбінкі рэгулярнымі пастаўкамі ў магазіны прадукцыі заводаў ААТ "Віцебскмясамалпрам".

**Наваполацк.** З-за пагаршэння кан'юнктуры на рынках збыту на ААТ "Нафтан" прыйшлося скараціць і звольніць ужо 1141 работніка прадпрыемства.

**Мёры.** Па праграме мадэрнізацыі на мясцовым мясакамбінаце запусцілі новы сучасны цэх для ахалоджання, замарозкі і захоўвання 500 тон мяса і мясапрадуктаў.

**Глыбокае.** Мясцовы райспажыўсаюз увайшоў у лік 7 стратных па вобласці разам з суседзямі з Браслава і Міёр, райпо ў Шаркаўшчыне ўжо ліквідавалі.

**Докшыцы.** Мясцовы завод "Ветразь" дамовіўся з італьянскай фірмай "Vega SRL" аб сумесным выпуску сучасных вузлоў ліфтавай панелі з ЖК-экранам.

**Гарадок.** На тэрыторыі Стадолінскага сельсавета раён адвёў 100 гектараў зямлі для стварэння фермы па вырошчванню да 120 высокародных аленяў штогод фірмай з Расіі.

**Паставы.** Міністэрства адукацыі Беларусі надала мясцоваму прафкаледжу новы статус рэгіянальнай установы сярэдне-спецыяльнай адукацыі (тэхнікума).

**Шуміліна.** Каля ажыўленай трасы Полацк-Віцебск у райцэнтры прадпрымальнік, інжынер-механік Алена Каваленка адкрыла станцыю "Аўтасэрвісу" для ўсіх тыпаў аўто.

**Полацк.** На плошчы Свабоды ва ўрачыстай абстаноўцы 8 новых маладых супрацоўнікаў Віцебскай мытні, выпускнікоў ВНУ прынялі прысягу на вернасць Рэспубліцы Беларусь.

**Бешанковічы.** Толькі з дапамогай авіяклуба ДТСААФ праз двое сутак пошукаў знайшлі ў лесе 67-гадовую пенсіянерку з вёскі Шкалёўка, якая пайшла ў ягады і заблудзілася.

**Лучай.** Для мясцовага касцёла св. Тадэвуша вядомы беларускі спявак і мастак Андрусь Такінданг напісаў серыю з 14 абразоў Крыжовага шляху, ён часта дае канцэрты ў храме.

**Шаркаўшчына.** Жыхара вёскі Вялікае Сяло ваўчыца 6 гадзін трымала на дубе да падмогі суседзяў, калі ён выпадкова ў грыбах выйшаў на вывадак маладых ваўчанят.

**Наваполацк.** Суд канфіскаваў маёмасць ва ўрача і санітаркі, якія 2 гады за грошы прадавалі бальнічныя лісткі, абедзьвюм далі адтэрміноўкі на 3 гады ад турмы.

**Глыбокае.** Да 5 гадоў турмы пагражае 21-гадоваму жыхару райцэнтра, які на падпітку каля апоўначы патэлефанаў аб нібыта мініраванні чыгуначнага вакзала.

**Бягомль.** На тэрыторыі сельсавета пасяліліся ўжо амаль 800 сем'яў дачнікаў, пераважна з Мінска, вакол азёр Восава і Волча зараз узводзіцца 56 новых дамоў сядзібнага тыпу.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

Віктар Майсяёнак:

# Было хобі, хобі стала работай

## Як просты дзеркаўшчынскі малец здзейсніў сваю мару. Калекцыянер і шукальнік скарбаў стаў загадчыкам музеяў! У Глыбокім яго і слухаць не хацелі!

Ёсць месцы на Беларусі, якія варта наведаць! Асабліва тыя, якія, адносна, вельмі блізка ад Глыбокага. Напрыклад, вёску Наносы на беразе Нарачы. Мядзельскі раён. Аўтар гэтых радкоў нават параіў бы класным кіраўнікам – звазіць сюды сваіх выхаванцаў. Можна параіць наведаць Наносы і супрацоўнікам сельскіх выканкамаў. Ад убачанага тут, магчыма, у іх узнікне жаданне шукаць інвестараў для ўкладання сродкаў у свой сельскі савет, альбо канкрэтную перспектыўную вёску. Была б толькі ідэя!

Чым прывабныя Наносы? Скажу! Адчуванне такое, што ты, раптам, апынуўся за граніцай! Неверагодна! Раней я шчыра верыў, што прыгажэй драўлянага дойлідства ў “закапанскім стылі” – няма! Аказваецца, ёсць! Тут свой стыль, які шматкроць заторкне тое хвалёнае Закапанэ! У Наносах – неймамерна прыгожая архітэктура і шмат музеяў! Некалькі вуліцаў з 1-2-павярховай драўлянай забудовай, якая складае суцэльны ансамбль.

Наносы трэба і варта наведаць, каб паглядзець, як можа цяпер выглядаць сучасная беларуская вёска, як у гэтай вёсцы можна развіваць агратурызм. У вёсцы Наносы якраз і размешчаны агратурыстычны комплекс “Наносы-Навaселле”. Усю гэтую прыгажосць ствaрыла не дзяржава, а прыватны бізнас. А дадатак – “Навaселле”, хіба што, звязаны з імя яго гаспадара Яўгена Навaселецкага. Фундатары, інтарэсы якіх уяўляе бізнасмэн Яўген Навaселецкі, выдаткавалі не меней пяці мільёнаў даляраў на стварэнне “цацачнай” беларускай вёскі ўзору XIX стагоддзя.

Наведаць Наносы нас даўно запрашаў Віктар Майсяёнак, калекцыянер і скарбашукальнік. Жывучы ў Глыбокім – марыў стварыць у нашым горадзе музей прыватных калекцый. Ды нешта не атрымалася... Перадусім, у такой справе павінна быць падтрымка ўладаў, жаданне дапамагчы, выдзеліць адпаведнае памяшканне.

Каб здзейснілася мара, трэба, натуральна, рабіць адпаведныя крокі ў яе рэалізацыі, у дадатак патрэбны пэўны збег спрыяльных абставінаў. І абставіны, нарэшце, збегліся. Віктар знайшоў тут сваю спадарожніцу жыцця, стварыў сям’ю, працуе ў агратурыстычным комплексе загадчыкам музеяў, часта адпраўляецца ў экспедыцыі па вёсках за экспанатамі, жыве ў курортным пасёлку Нарач.

Нарэшце, мы згуртаваліся і паехалі да Віктара. Патрапілі адразу на пачатак рыцарскага турніру *(фота стар.1)*. Уразіла тое, што сярод рыцараў ... была дзяўчына, якая спрытна валодала дзідай. А кажуць, што – “у вайны не жаночы твар”! Натуральна, двубаі рыцараў адбываліся пад акампанемент цудоўнай этна-фолк музыкі. У дадатак – сонечна і па-летняму цёплае надвор’е.



**Казлавы паваротны млын-вятрак** 1876 **года. Прывезены ў Наносы з Ляхавіцкага раёна.** 03.10.2015.

Калі казаць агулам, то ўся вёска Наносы і ёсць адзін суцэльны музей! Гэты вялікі музей складаецца з мноства розных музейчыкаў.

У Наносах ёсць хоць і наватвор – водны млын – але гэта адзіны на Беларусі млын, які працуе. Прадукуе муку, а ў суседнім памяшканні гэтага будынка – пякуць хлеб. Можна замовіць. Наватвор, але ўжо цягне на статус матэрыяльнай спадчыны!

Ёсць яшчэ два млыны – млыны-ветракі. Адзін з іх прывезены з Ляхавіцкага раёна – казлавы паваротны млын 1876 года. Адрэстаўраваны. Па словах Віктара, цяпер вырашаецца пытанне аб наданні гэтаму экспанату статуса помніка драўлянага дойлідства. На ўскраіне Наносаў – яшчэ адзін млын-вятрак. Наватвор. Фактычна – вышка-пляцоўка для агляду мясцовасці, з якой адкрываюцца відарысы на нарачанскія далягляды. А ўнізе, на 1-м паверсе, адзін з музеяў! Музей самагонаварэння! Музей, натуральна, цікавы ўсім наведнікам, а для пэўнай, спецыфічнай, катэгорыі наведнікаў (спецыялістаў па самагонаварэнню) – рарытэт, падручнік ведаў, тэхналогій.

Калі казаць праўду, то Віктар, персанальна, для глыбоцкай “дэлегацыі” выдзеліў асобны час. Рэальная экскурсія па агратурыстычным комплексе “Наносы-Навaселле” доўжыцца цягам 4 гадзінаў!

Завіталі мы ў тамтэйшую стайню, дзе знаходзяцца коні элітных парод. Сярод коняў ёсць і коні “рыцарскіх” парод. Ну, гэта, зыходзячы з таго, што тут адбываюцца і конныя рыцарскія турніры. У стайні, якая нагадвае больш палац спорту, знаходзіцца і іпадром.

Наведалі мы яшчэ адзін будынак – стылізаваны пад даўніну, тут: 3D-кінатэатр, плавальны басейн, утульная кавярня, а самы галоўны рарытэт – кабінет шэфа Віктара з яго паляўнічымі трафеямі. Пудзілы мядзведзяў, ваўкоў, аленяў, тыгра, на сценах – пудзілы галоў зуброў, дзікоў, ласёў... Цудоўны камін. Усё, як у рыцарскім замку!

Зудзелам Віктара і агульнай масай прыезджых мы наведалі экскурсію ў музеі самавараў. Музей самавараў – у 2 паверхі – сабраў, мабыць, самую вялікую ў Беларусі калекцыю самавараў: ад маленечкіх да велізарных, ад медных да залатых. Шматлікія з экспанатаў – самавары «з медалямі», г.зн., ганараваныя прызамі на адмысловых выставах, якія праводзіліся ў Расіі і за мяжой у пазамінулым стагоддзі. Музей прысвечаны не толькі самавару. Музей прысвечаны цырымоніі чаявання ў розных краінах. Наведаўшы яго, вы пазнаеце шмат не толькі пра айчынныя традыцыі, але і пра традыцыі чаявання ў арабскім свеце, у Японіі і, нават, у старажытным Егіпце.

Тут таксама можна набыць самавар на памяць, і з задавальненнем піць з яго чай.

Нам рускія адурылі ўсе вушы, што самавар – адметнасць рускай ідэнтычнасці. Хлусня! Самавар прыдумалі ў Заходняй Еўропе! Адзінае, што маглі зрабіць рускія, скрасці чужыя тэхналогіі, катрабандным спосабам, падкупіўшы мытнікаў праз хабар, прывезці самавар у Расею, напрыклад, з Нямеччыны. І яшчэ адна дурнота, якая адлюстравaная ў розных мульціках і фільмах – вуглі ў самавары раздзімалі скураным ботам. Няпраўда! – А вы ўяўляеце?– пытае Віктар у экскурсантаў, – які б быў смурод у хаце ад потных, сходжаных ботаў! Для хуткага атрымання кіпеню – насамрэч, дымаход нарошчваўся трубой яшчэ на адзін ярус.

У музеі – 527 самавараў! Больш за 200 з іх сабраў Віктар пад час экспедыцый, або абмяняў. Сам рэстаўраваў. Усе самавары ў экспазіцыі – як навюткія, нібы толькі з завода.

У агратурыстычным комплексе для адпачынку можна зняць і дом. Кошт у выходны дзень – 4 350 000 рублёў, у будні – 3 035 000. Для кампаніі, мо – й нядорага?

За ўвесь час знаходжання ў Наносах, адчувалася, што Віктар Майсяёнак, знайшоў сябе, нарэшце, рэалізаваў сваю мару. Ён так і сказаў экскурсантам: “Было хобі, хобі стала работай!”. Мы ж шчыра парадаваліся за свайго земляка, пажадалі яму далейшага плёну.



**Віктар Майсяёнак праводзіць экскурсію ў музеі самавараў. – Знайдзіце ў музеі хоць два падобных самавары!– кажа ён. – Адзін з іх – я падару Вам!**
**Некаторыя шукалі, не знайшлі! Калекцыя самавараў не паменшала!** 03.10.2015 **г.**



**У музеі самавараў – 527 самавараў. Больш за 200 з іх сабраў Віктар пад час экспедыцый па вёсках, некаторыя купіў, абмяняў.**



**Эх-х-х! Няўлоўны мабільны самагонаварны завод на базе УАЗіка. Гадамі можна гойсаць па Галубіцкай пушчы і ніякая міліцыя не страшная! Дарэчы, гэты мабільны завод падарылі музею менавіта леснікі з Магілёўскай вобласці.** 03.10.2015.



**Яшчэ адзін млын – вятрак. На першым паверсе – музей самагонаварэння. Ідзём на экскурсію.**



**Таксама мабільны самагонаварны заводзік. Бяры – карыстайся! Вельмі адаптаваны для вялікага “шухера”. Пакуль міліцыянты будуць блукаць па кустах, твой след, разам з заводам, прастыў!** 03.10.2015.

# Як лепш пражыць?

*Вникая в мир и жизнь людей,*
*Да и в себя, как человека,*
*Я вижу дичь в душе моей*
*И в ходе общества от века.*
*Все в небе стройности полно,*
*А нам и смысл отмерен скупо,*
*Планеты движутся умно,*
*А люди движутся так глупо.*

***Н.Ф.Щербина***



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, г. Дзісна*

Я Акунеўскую СШ закончыў у 1955 годзе пераросткам – дваццацігадовым юнаком. Уласнае жыццё ўяўлялася бясконцым. І не дзіўна, што гісторыя чалавечага грамадства ўспрымалася як нешта неспасціжнае. Абрыўкі філасофскіх ведаў, атрыманыя ў школе, умацоўвалі гэтае светаадчуванне. Мне здавалася, што наперадзе маю столькі часу, якога хопіць і на вучобу, і на работу, і на забаўкі. Праўда, жыццё ўнесла некаторыя карэктывы, на забаўкі часу не хапала, каб пражыць, трэба было шмат працаваць.

Але мінулі гады, фініш жыццёвы на гарызонце. І сёння я ясна ўсведамляю кароткасць чалавечага быцця. Успаміны фіксуюць ужо 8 дзясяткаў пражытых гадоў, якія падаюцца імгненнямі.

Усвядоміўшы і адчуўшы канчатковасць свайго жыцця,пачынаешвастрэйуспрымаць яго каштоўнасць. І перада мной дастаткова часта ўзнікае пытанне, а ці цалкам ты скарыстаў усе тыя магчымасці, у адведзены табе час? Ці здолеў бы пражыць лепш, зрабіць больш?

Я не магу крыўдаваць на свой лёс, хоць ён быў жорсткім, прыйшлося ў дастатку пакаштаваць і голад, і холад, і крыўды, нанесеныя больш дужымі і ўладнымі суайчыннікамі. Але і лёсу са мной даводзілася нялёгка.

У час вучобы, нягледзячы на голад, атрымаў ведаў дастаткова і добрай якасці, бо праз 9 гадоў пасля заканчэння школы пры паступленні ў інстытут на ўступных экзаменах па фізіцы, матэматыцы і літаратуры набраў 18 балаў з 20-і магчымых. Завочна за 5 гадоў закончыў фізмат педінстытута без адзінай тройкі. Асвоіў прафесію і авалодаў метадамі самаадукацыі. Здавалася б, што патрэбна чалавеку больш для нармальнага жыцця? А я не зусім задаволены сабой, бо на фінішнай прамой выдатна разумею, што зроблена многа, але і мог бы, абавязаны быў зрабіць больш, не заўсёды рацыянальна скарыстоўваў адведзены прыродай час, які назад не вернеш. Падставу да такой думкі дае і артыкул аднаго з журналістаў: "Пакуль Вы дыхаеце,Выможацеўносіць свой уклад у гэтае жыццё", - напісаны нейкім Нік Вуйчычам, хрысціянскім прапаведнікам, які нарадзіўся без усіх чатырох канечнасцяў, але гэта акалічнасцьнеперашкодзіла яму стаць аўтарам кнігі "Жизнь без границ". Дазволю сабе ў поўным аб'ёме прывесці яго філасофскае разважанне пра ролю чалавека ў жыцці, бо лічу, што гэта вельмі карысна для падрастаючага пакалення. Нік Вуйчыч піша: "Мы з Вамі створаны для таго, каб стаць тымі, якімі павінны быць! Наша пастаянная мэта – імкненне стаць лепшым чалавекам, расшырыць свае граніцы і марыць аб Вялікім, шлях Ваш не заўсёды будзе ўсыпаны ружамі, і Вы не павінны рухацца па ім, як танк. Але жыццё ўсёроўна цудоўнае. Я хачу сказаць Вам, якімі б ні былі Вашы жыццёвыя абставіны, пакуль Вы дыхаеце, Вы можаце ўносіць свой уклад у гэтае жыццё.

Я не магу пакласці руку Вам на плячо, не магу шчыра з Вамі пагутарыць. Якім бы жудасным не здавалася вам жыццё, надзея прысутнічае заўсёды. Якімі б сумнымі ні былі абставіны, наперадзе Вас чакае штосьці добрае. Якімі моцнымі ні былі б бар'еры на Вашым шляху, Вы зможаце ўзвысіцца над імі. Жаданне змяніць – яшчэ не значыць самога змянення ў сапраўднасці. Толькі рашэнне дзейнічаць тут жа можа памяняць наша жыццё да лепшага".

Чаму я аддаў столькі ўвагі павучанню гэтага легендарнага чалавека? Таму, што ён, нягледзячы на свой фізічны стан, не толькі нас вучыць, але і сам дзейнічае. Вось нам бы ды яго спрыт!

Звяртаючыся да гісторыі і да нашага ўласнага жыцця, мы бачым, што часта дзейнічаем не лепшым чынам, не рэалізуем тых вялікіх магчымасцяў, якія прадстаўляюцца нам прыродай і працай папярэдніх пакаленняў. Шмат часу і высілкаў трацім на барацьбу з міражамі, пагоню за ілжывымі каштоўнасцямі, пераадоленнемнаміжсамімі створаных цяжкасцяў, забаўкі і, проста, бязмэтнага правядзення часу. Невыпадкова ў свядомасці людзей фарміруецца прадстаўленне, што і жыццё грамадскае, і іх уласнае, складаецца неразумна, і шмат намаганняў прападае дарэмна.

**...памятайце, што кожны, незалежна ад таго, якую прафесію выбірае, павінен мець трывалыя веды, якія давалі б магчымасць разумець падзеі ў свеце, краіне, актыўна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці.**



**На 26-й вясне абарвалася жыццё класіка сучаснай беларускай літаратуры, аднаго з яе заснавальнікаў – Максіма Багдановіча. Усяго 10 год літаратурнай працы гэтага геніяльнага юнака далёка ад роднай старонкі, у барацьбе з хваробай, у спалучэнні з вучобай, вывучэннем славянскай і сусветнай культурнай спадчыны… Але імя яго сёння – сярод лепшых песняроў усяго свету, усіх часоў.**

Ці ў стане мы змяніць існуючае пакаленне? Немагчымага няма, але нічога само па сабе не зменіцца. Гэта можа зрабіць чалавек, узброены неабходнымі ведамі і гатовы маральна. Пасіўнасць у сучасным жыцці, безадказнасць у дзеяннях і, на жаль, даволі частая непісьменнасць у прыняцці прыносіць больш шкоды, чым наўмыснае стварэнне зла. І мы ўсё вастрэй адчуваем гэта. Памяняць сітуацыю заклікана тая частка моладзі, якая не згубіла імкнення да вучобы, жадае стаць гаспадаром краіны, імкнецца да набыцця навейшай інфармацыі, гатова ўкараняць навейшыя прагрэсіўныятэхналогіі,для якой галоўная каштоўнасць – чалавек.

Гісторыя поўніцца мноствам прыкладаў, калі маладыя людзі, таленавітыя, вырашалі складаныя вызначальныя праблемы. Марат Рабесп'ер у 34 гады кіраваў якабінцамі. А яго бліжэйшы паплечнік Сэн-Жуст ужо ў 25-гадовым узросце стаў адной з вядучых палітычных фігур Вялікай французскай рэвалюцыі. Напалеон Банапарт у 24 гады атрымаў званне генерала, а ў 30 стаў першымконсуламФранцыі. Джэферсан у 26 выбраны дэпутатам заканадаўчага сходу Віргініі, а ў 33 ён аўтар праекта знакамітай "Дэкларацыі незалежнасці", у якой абвяшчалася стварэнне Злучаных Штатаў Амерыкі.

Новыя шляхі ў развіцці навукі, культуры таксама нярэдка пракладвалі маладыя людзі. Ньютану не было яшчэ і 24-х, а ён ужо распрацаваў ідэю дыферэнцыйнага і інтэгральнага вылічэння, адкрыў закон сусветнага прыцягнення. Мечнікаў у 22 гады атрымаў прэмію Бэра за выбітную работу па эмбрыялогіі. Энштэйн у 25 стварыў тэорыю адноснасці. Гайзенбергу было 24, калі ён сумесна з Борам распрацаваў асновы квантавай механікі. Свае творы Пушкін пачаў ствараць яшчэ ў юным узросце. Цудоўную паэму "Руслан і Людміла" напісаў у 21 год. Лермантаў пражыў толькі 26, а якую багатую спадчыну пакінуў пасля сябе. Дзецішча 19-гадовага Рахманінава – выдатная опера "Алека". Рафаэль ярка праявіў свой талент ужо ў 17. Прапаршчык царскай арміі (малодшы лейтэнант па сучасным табелі) Тухачэўскі ў 26 год у грамадзянскую вайну паспяхова камандаваў цэлай арміяй.

Юнацтва – гэта, верагодна, лепшая, але і самая адказная пара. Пішу гэты артыкул, каб заклікаць юнакоў і дзяўчат, якія паспяхова атрымалі сярэднюю адукацыю, сур'ёзна задумацца, па якім профілі вучыцца далей. Вы – наша надзея на тое, што зможаце рэальна ацаніць абставіны і дастойна служыць людзям і Айчыне. Але памятайце, што кожны, незалежна ад таго, якую прафесію выбірае, павінен мець трывалыя веды, якія давалі б магчымасць разумець падзеі ў свеце, краіне, актыўна ўдзельнічаць у грамадскім жыцці.

Аўтар і вядучы вядомай і любімай праграмы "Разумнікі і разумніцы" Юры Вяземскі дае параду: "Заўжды трэба развіваць свае здольнасці! Папершае, трэба зразумець, для чаго ты нарадзіўся на свет і што табе больш за ўсё цікава ў гэтым жыцці. Да чаго ты больш схільны. Калі ты знойдзеш, чым ты хочаш займацца і калі гэта будзе сапраўды твая справа, то будзеш ты шчаслівым чалавекам, нягледзячы ні на што".

Цяпер адбываецца інтэнсіўнае змяненне звыклых уяўленняў пра чалавека, грамадства, асаблівасці развіцця нашай краіны і сусветнай цывілізацыі. Разбураюцца многія догмы, якія яшчэ нядаўна вызначалі светапогляд. Вялізная колькасць новай інфармацыі суправаджаецца рэзкім узрастаннем дэфіцыту ў яе асэнсаванні і абагульненні.

Навукова-тэхнічны прагрэс для эфектыўнага выкарыстання высокавытворчай тэхнікі ва ўсіх сферах жыцця патрабуе граматных, высокаадукаваных спецыялістаў. Чым больш складаная, высокапрадукцыйная тэхніка і тэхналогія, аўтаматыка і электроніка, тым больш, высокапрафесійная, павінна быць яе абслуга. Ніякая тэхніка ніколі не заменіць чалавечы розум. Так што, наперад за ведамі, наша змена і надзея.



**Нік Вуйчыц нарадзіўся без рук і ног, але гэта не перашкодзіла яму стаць знакамітым хрысціянскім прапаведнікам, аўтарам кніг «Жыццё без межаў», а таксама стварыць паўнацэнную сям'ю.**

# Калі мужчыны вырошчваюць кветкі, ім няма часу думаць пра вайну

## У Росіцы ўпершыню прайшло свята кветак



Прыгожа глядзіцца касцёл з возера. Вярнуць бы яму першапачатковыя вежы, і тэрыторыя б займела цалкам закончаны выгляд.

**У Вёсцы Росіца Верхнядзвінскага раёна ў суботу, 10 кастрычніка, упершыню прайшло свята кветак.**

■ **Зміцер Лупач**

Напачатку яно планавалася, як свята вяргінь, бо іх расце каля святыні вялікая колькасць. Але надвор’е ўнесла свае карэктывы, рэзкае пахаладанне спрычынілася да таго, што вяргіні змерзлі. Але свята ўсё адно атрымалася. На яго прыехаў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, які таксама ў свой час прымаў удзел у пасадцы кветак вакол росіцкай святыні. Ён і ўзначаліў урачыстую Імшу ў росіцкім храме.

Пасля набажэнства ў храме адбылася святочная праграма, прысвечаная кветкам. Яе падрыхтавала жыхарка Росіцы Алена Мінчанка. У праграме былі вершы пра кветкі, загадкі, конкурсы. Спадарыня Алена сказала пра свайго пробашча такія словы:

– Шмат хто лічыць, што вырошчваць кветкі – гэта жаночая справа, а мужчынакветкавод выглядае нeяк дзіўна. Але гэта добра, калі мужчыны вырошчваюць кветкі. У іх тады не застаецца часу думаць пра вайну.

Сярод пераможцаў былі біскуп Алег Буткевіч і пісьменніца Ірына Жарнасек. Ну, а гаспадар парафіі ксёндз Часлаў атрымаў жартоўны прыз – выкапаць сто кустоў вяргінь для захоўвання. А пасля ўсіх чакаў пачастунак на свежым паветры – грыбная поліўка, якой было зварана больш за чатыры вядры. І не толькі поліўка, а і бульба з мясам, і чай з лекавых раслін.

Росіцкі касцёл быў збудаваны ў 1911-1912 гадах, тады росіцкая парафія налічвала больш за 8 тысяч вернікаў, якія ўжо не змяшчаліся ў старым драўляным храме. Касцёл, як і саму вёску, напаткаў трагічны лёс. Савецкія ўлады святыню зачынілі, а ў 1934 годзе разбурылі спічастыя вежы храма. У вайну сюды з Друі прыехалі ксяндзымарыяне, якія распачалі тут місіянерскую дзейнасць. Напачатку 1943 года нямецкія захопнікі сумесна з латышскімі эсэсаўскімі батальёнамі правялі тут карную аперацыю “Зімовы цуд”. Амаль паўтары тысячы жыхароў Росіцы былі спаленыя жывымі, такі лёс напаткаў і жыхароў навакольных вёсак. Ксяндзам Антонію Ляшчэвічу і Юрыю Кашыру карнікі прапанавалі жыццё, але яны адмовіліся і раздзялілі лёс сваіх вернікаў.



Доўгі час і храм, і месца трагедыі былі ў занядбаным стане. На даху будынка сталі расці дрэвы. Святыню пачалі адраджаць толькі ў 90-х гадах мінулага стагоддзя. Па словах пісьменніцы Ірыны Жарнасек, ксёндз Антоні Лось, які прыехаў сюды адраджаць касцёл, нарэзаў цэлую машыну дроў з даху касцёла.

У 2007 годзе сюды прыехаў працаваць ксёндз Часлаў Курэчка, дзякуючы працы якога мясцовасць вакол храма цалкам змянілася. Ён не толькі выдатны кветкавод, але і арганізатар. Вернікаў у Росіцы засталося зараз няшмат, ды і тыя больш пажылога веку. Але дзякуючы арганізатарскім здольнасцям ксяндза Часлава сюды прыязджаюць працаваць вернікі з Глыбокага, Полацка, Барысава, іншых мясцін. Частымі гасцямі тут бываюць і салдатыпагранічнікі, бо Росіца знаходзіцца на самай мяжы з Латвіяй.

Росіца, якая паступова вымірала, дзякуючы працы ксяндза стала расквітаць. Гэта заўважылі і мясцовыя ўлады, якія ў гэтым годзе паклалі ў Росіцы новы асфальт. Вось так адзін чалавек спрычыніўся да адраджэння цэлай вёскі.

З кожным годам у Росіцу прыязджае ўсё больш пілігрымаў. Таму і свята кветак, якое прайшло тут упершыню, стане традыцыйным.



Касцёл пасля будаўніцтва, пачатак XX ст.

# Уступіць у таварыства паляўнічых ох як цяжка, а вось страціць гэтае права вельмі нават лёгка

**Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі шмат пішуць аб розных фактах парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, прыводзяць прыклады затрымання парушальнікаў, сумы штрафаў за прычыненую прыродзе шкоду. За кожным з выяўленых парушэнняў стаіць чалавек, які далёка не заўсёды наўмысна ідзе на парушэнне закона, а проста з-за яго няведання, з-за ўласнай лянoты лішні раз пачытаць заканадаўства, правілы палявання альбо рыбалоўства, атрымаць тлумачэнні ў спецыялістаў.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

У адным з апошніх нумароў газеты мы пісалі, што жыхар Шаркаўшчынскага раёна ажыццяўляў паляванне ў забароненым месцы і здабыў 2 качкі. Здавалася б, і што тут такога, усе дакументы ў паляўнічага былі ў наяўнасці, толькі вось паляваў ён не там, дзе гэтыя дакументы яму дазвалялі.

Будучы затрыманым віну сваю прызнаў, але вось у раённым судзе, дзе разглядалі парушэнне, вырашыў аспрэчыць факт незаконнага палявання і здабычы дзічыны, напэўна, па парадзе «добрых» сяброў, маўляў, нічога не прызнавай, і ты будзеш мець рацыю. Суду прыйшлося выслухаць паказанні ўсіх сведак і як вынік, штраф паляўнічаму ў памеры 4,5 млн. рублёў, пазбаўленне правa палявання тэрмінам на 6 месяцаў, канфіскацыя стрэльбы і патрабаванне пакрыць шкоду за здабычу 2 качак у памеры 10 млн. 800 тысяч рублёў.

Для простых людзей пазбаўленне права палявання як бы і не пакаранне, але сапраўдныя паляўнічыя ведаюць цану гэтаму слову, уступіць у таварыства паляўнічых у цяперашні час ох як цяжка, а вось страціць гэтае права вельмі нават лёгка, да таго ж, пазбаўленне права палявання аўтаматычна пазбаўляе чалавека права на захоўванне агнястрэльнай зброі як мінімум на 3 гады.

Але, парушаюць не толькі паляўнічыя, але і рыбакі, лесанарыхтоўшчыкі. Так, 6 кастрычніка 2015 года супрацоўнікі міжраённай інспекцыі на сажалках рыбгаса «Навінкі» Пастаўскага раёна затрымалі жыхара г. Паставы, які з зімавальнай сажалкі выкраў 5 кг сажалкавых карпаў. Затрыманы прыехаў на законную рыбалку, на скідны канал, але, убачыўшы велізарную колькасць карпаў у сажалцы, не вытрымаў і вырашыў, што калі ён трохі і вылавіць рыбы, ніхто не заўважыць. Раённы суд дасць ацэнку дзеянням парушальніка, штраф ад 10 да 30 базавых велічынь.



Двух жыхароў Шаркаўшчыны, якія незаконна вылавілі 103 кг карпаў з сажалак рыбхоза «Навінкі» затрымалі глыбоцкія інспектары.

Супрацоўнікі міжраённай інспекцыі выказваюць вялікую ўдзячнасць грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства.

**Вы можаце патэлефанаваць на тэлефон «тэлефон даверу»: 8-02156-2867 – кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

